

**1 лютага 1863 году падпольны правінцыйны камітэт на чале з Кастусём Каліноўскім абвясціў сябе Часовым правінцыйным урадам Літвы і Беларусі. Так распачалася двухгадовая барацьба беларусаў за свабоду грамадзян і незалежнасць краіны.**

**У 2013 годзе Беларусь адзначае 150-годдзе падзей, якія заклалі ідэйна-гістарычны падмурак новай беларускай дзяржаўнасці.**


# Мужыцкая праўда № 2 (9)

Першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газета Беларусі.

Выдавалася з ліпеня 1862 па чэрвень 1863 году. Адноўлена ў лютым 2013 у гонар 150 годдзя паўстання.


## Слова да Народу

***Публіцыстыка Кастуся Каліноўскага стала падмуркам новай нацыянальнай ідэі Беларусі - краіны вольнай і справядлівай, дзе кожнаму чалавеку ёсць годнае месца незалежна ад паходжання і статусу. Гэта былі перадавыя ідэі таго часу, якія і дагэтуль на поўную рэалізуюцца не ва ўсіх нават цывілізаваных краінах. Вельмі сімвалічна, што «Мужыцкая праўда» заклікала людзей да паўстання. Газета сама па сабе ўжо была рэвалюцыяй - сімвалам пералому ў мысленні і самаўспрыманні беларускага народу.***

Мужыцкая праўда была першай перыядычнай газетай на беларускай мове. Больш-менш рэгулярныя выданні на той час ужо існавалі, але сваёй аўдыторыяй яны мелі досыць абмежаваныя сацыяльныя групы, выходзілі папольску ці па-расейску. Газета Кастуся Каліноўскага адрасавалася вельмі шырокаму колу чытачоў. Яна звярталася да прадстаўнікоў усіх саслоўяў, але на мове, якой размаўляла большасць насельнікаў гэтага краю. І менавіта ў ёй упершыню раскрыўся сэнс вызначэння беларускі народ, у праве на існаванне якому доўгі час адмаўлялі.

Мужыцкая праўда пачала выходзіць з ліпеня 1862 году. Пісалася яна на забароненай тады беларускай мове і лацінкай - толькі такія літары мог прачытаць звычайны тагачасны беларус. Газета ўяўляла сабой адзін аркуш з друкаваным на абодвух старонках тэкстам. Тэкст быў напісаны на родным для Каліноўскага гарадзенскім дыялекце беларускай мовы - агульнапрынятых літаратурных нормаў на той час яшчэ не існавала. Мужыцкая праўда раскрывала вочы на сапраўднае становішча ў краіне і клікала да барацьбы за вызваленне ад самадзяржаўнага ўціску. Распаўсюджвалася яна амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі. З архіўных экземпляраў мы можам азнаёміцца з асноўнымі тэмамі ўсіх сямі нумароў.

Першая газета адразу вызначала мэты і прыярытэты маючага паўстання. Галоўным адрасатам быў просты беларускі селянін, аб свабодзе і дабрабыце якога найперш рупіўся аўтар. Першы нумар адразу заяўляў пра правы самага нізкага на той час саслоўя адстойваць свае інтарэсы: ***«Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі, – цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе.»***

**19 стагоддзе было эпохай самавызначэння народаў, адыходу ад саслоўнага грамадства і фармавання нацыянальных дзяржаваў. Менавіта тады на мапе Еўропы з'явіліся назвы большасці сучасных краінаў. Беларусы ў той час не мелі ўласнай дзяржавы. Сама назва Беларусь толькі пачала ўжывацца ў дачыненні да гэтых земель, адрозніваючы нас ад іншых народаў былога ВКЛ - украінцаў, жамойтаў (летувісаў).**

**Рэвалюцыя пад кіраўніцтвам Каліноўскага - гэта першая спроба змагання за незалежнасць ужо беларусаў, як цэласнай і аднароднай нацыі. У адрозненні ад ранейшых саслоўных паўстанняў (шляхецкіх 1794 і 1830-х гадоў за аднаўленне Вялікай Літвы і Рэчы Паспалітай, альбо сялянскіх бунтаў) - у рэвалюцыі 1863-64 г. на адным баку стаялі і шляхцічы, і мяшчане, і прыгонныя.**

**Кастусю Каліноўскаму ўдалося спарадзіць агульнае бачанне новай беларускай дзяржавы, незалежнай, і з роўнымі па статусу, вольнымі грамадзянамі. На стагоддзі гэты ідэал стаў марай і мэтай для новых і новых пакаленняў беларускіх патрыётаў.**

Аднак назваць гэтыя ідэі сацыялістычнымі, як гэта спрабавалі зрабіць у часы Савецкага саюзу, ніяк нельга. Сваё належнае месца ў праекце новай беларускай дзяржавы знаходзілі і іншыя саслоўі: ***«... найдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць вашай свабоды...».***



Паўстанцы выходзяць да месца збору. Тагачасная гравюра

Галоўнай жа перашкодай на шляху да свабоды Кастусь Каліноўскі называў «маскалёў», чыноўнікаў і некаторых «паноў». Што было зразумела - пасля задушэння папярэдняга паўстання 1830-х гадоў Расійская імперыя праводзіла палітыку жорсткай каланізацыі. Адміністрацыйныя пасты больш не маглі займаць выхадцы з гэтых земляў. Імперскія ўраднікі, прыбыўшы на гэтую зямлю, адразу атрымлівалі досыць вялікія надзелы зямлі для ўласнага прыбытку. Зразумела, што зрабіць гэты прыбытак максімальным было асноўным жаданнем новых «паноў». Да таго ж выхадцы з Расейскай імперыі адрозніваліся зусім іншым разуменнем прыгону і павіннасцяў сялян, а часта і проста не мелі добрых навыкаў у вядзенні гаспадаркі. Сюды з'язджаліся ў асноўным тыя, хто не меў уласнай зямлі ў Расеі і не мог зрабіць там добрую чыноўніцкую кар'еру.

Такім чынам у сярэдзіне 18 стагоддзя на Беларусі сфармаваўся новы клас чыноўнікаў-землеўладальнікаў расейскага паходжання, якія мелі прыярытэтнае права ва ўсіх дзяржаўных інстанцыях, і на сваіх новых уладаннях былі вольныя рабіць усё, што ім хацелася. І калі мясцовыя магнаты, маючы грошы, адукацыю і рэшткі ўплыву, яшчэ маглі што-небудзь супрацьпаставіць «новай эліце» ў судах і павятовых адміністрацыях, то больш бедным слаям насельніцтва разлічваць не было на што. Гэтае пачуццё безвыходнасці і адлюстраванае ў першым нумары Мужыцкай праўды: ***«Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца; бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Но не доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, гдзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду.»***

N 1.

MUŽYCKAJA PRAUDA.

Dziecinki!

Minuło uže toje. kali zdawało sia usim . szto mužyckaja ruka zdasce tolko da sachi.—ciepier nastau taki czas. szto my sami možem pisaci , i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O. zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my možem nie tolko karmić swaim chlebom . no jeszcze i uczyć swajej mužyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie. szto czuwaci na swieci. chto nam biedym mužykam daść wolność? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe—pa sprawiedliwości. My mužyki . braty waszyje. my wam budziem hawaryć całuju praudu . tolko słuchajcie nas!

Maskali . czynouniki i mnoho panou . buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mužykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych . szto choczuć waszej swabody . waszaho szczaścia.—jony to wam sami heto pismo dawaci buduć . kab wy znali chto wasz pryjaciel . a chto w...

Szesc ... uže minuło jak pačali hawaryć a sw...

Мужыкая праўда №1

Кастусь Каліноўскі бачыў выйсце ў аб'яднанні сялянства ў збройным супраціве несправядлівасці. Аднак тут жа ён пакідаў месца для для шляхецкага ўдзелу ў паўстанні разам з сялянамі: ***«Вазьмемся, Дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жэ робяць па свентай справядлівасці: бо калі іначай – так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе.»***

Гэты падыход стаў задаткам паспяховасці Каліноўскага ў задуманай справе. Толькі там, дзе да паўстання актыўна далучыліся сяляне, супраціў царскім карнікам працягваўся надзвычай доўга і меў лакальныя поспехі. Сілы партыі «белых» - польскіх буйных землеўладальнікаў, якія на пэўны час узялі на сябе кіраванне рэвалюцыяй, былі разбітыя за лічаныя месяцы.

Але гэта будзе пазней, а зараз Мужыцкая праўда працягвае свой паход да народу. У другім нумары газеты Кастусь Каліноўскі тлумачыў гістарычнае паходжанне шляхецкага саслоўя і сутнасць падзелу грамадства: ***«Выгналі то Маскаля і Немца – но, каб жонкі да і дзеці гэтых, што хадзілі на вайну, мелі за чым пражыці, так Кароль наш і напісаў такое права: «Гэтыя, што не хочуць ісці бараніці сваёй зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б'юцца за вольнасць і шчасце ўсіх». І гэтак было доўга: адны баранілі краю, усё хадзілі па войнах, другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. З гэтуль то і ўзялася гэта паншчына.»***

Падзел абавязкаў у грамадстве Каліноўскаму бачыцца лагічным і заканамерным. Аднак увагу ён акцэнтуе на тым, што ў час царскай улады ўсе абавязкі ляглі на плечы сялянства, у тым ліку і справа па абароне краіны. Ён крытыкуе сістэму рэкруцкіх набораў у імперскае войска, якой ніколі не існавала ні ў ВКЛ, ні ў Рэчы Паспалітай: ***«Стаў зараз Маскаль свой ронд (закон, урад) уводзіць у нашам краю і кажэ: «Мужык, дававай рэкрута, мужык, давай падаткі, да і паншчыну яшчэ служы альбо плаці аброк у казну!» Так якая ж тут ужэ справядлівасць, калі ўсенька, што цяжка зваляюць на мужыка, калі з яго дзяруць астатнюю шкуру, б'юць і плакаць не даюць!»***

Следам жа згадваецца і паўстанне Тэдэвуша Касцюшкі: ***«Ачынялі то былі мужыкі, угледзелі, што кепска, дай дававай бунтавацця пад Касцюшкаю; а Касцюшка то кажэ: «Калі мужыкі хочуць ужэ самі бараніці сваю зямлю, так няхай жэ не служаць паншчыны да і не плацяць у казну аброку за зямлю». От гэта так справядлівасць! – но што ж, калі Маскаль спыніў Маніхвэст Касцюшкі, каб не пабунтаваў усіх мужыкоў. Для таго то і пабілі Маскалі Касцюшку, бо каб мужыкі ўсе разам былі збунтаваліся і ўхапілі за сякеры, нажы і косы, так бы Маскаль мусіў бы прапасці без паўстаня, і мы на век вякоў ужэ былі бы вольныя.»***

Далей Каліноўскі заклікае да эканамічнага супрацьстаяння царскай уладзе: ***«мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну за зямлю – бо гэта зямля да нас належыць,... А калі вас хто будзе падмаўляць рабіці іначай: чы то Спраўнік, чы то Акружны, чы то Лапсэсар, чы то Пан, то вы яго***

**Расейскія імперскія ўлады ў першай палове 19 ст. актыўна навязвалі найменне беларус у дачыненні да праваслаўнага (пераведзенага з уніяцтва) сялянскага насельніцтва краю. Яны разлічвалі стварыць «беларускую» альтэрнатыву «ліцвінскаму» самаўсвядомленню народу колішняга ВКЛ. Паўстанне Каліноўскага стала сапраўдным шокам для ідэолагаў імперыі. Выявілася, што і самавызначаючыся як Беларусы, народ гэтай краіны ўсё адно ўпарта імкнецца да незалежнасці і вызвалення ад «брацкіх абдымкаў».**

**Пасля задушэння паўстання назва Беларусь была забаронена, ўжыванне мовы мясцовага насельніцтва жорстка пераследавалася. Вялося актыўнае перасяленне расейскага сялянства на абсягі ўжо «Паўночна-заходняга краю». Аднак імкненне народу да волі і незалежнасці нікуды не знікла. Яно захавалася ў генах «тутэйшых» да больш зручнага гістарычнага моманту. Менавіта яно заўжды падказвала беларусам, дзе - няхай і забароненае - сваё, а дзе - няхай і навязваемае - чужое.**

***не слухайце, бо то, пэўна, ашуканства, што за царскія альбо панскія грошы вечнай вашай згубы хочэ!!»***

Кіраўніцтва паўстання цудоўна разумела, што без масавага эканамічнага байкоту дасягнуць поспеху будзе цяжка. Імперскія чыноўнікі будуць атрымліваць рэсурсы на барацьбу з касінерамі найперш ад беларускага сялянства. Паншчына і аброк складаюць даход мясцовага акупацыйнага рэжыму, без якога іхнія сілы істотна аслабнуць.

Трэці нумар апісвае маючаю быць падатковую палітыку краіны і тлумачыў сэнс слова «Свабода» як сацыяльнай каштоўнасці: ***«Мы сягодня ўсе ўжэ ведаем, што чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за катору ані чыншу, і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць, – калі плаціць малыя падаткі, і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свайго краю тагды толька, калі які непрыяцель надыдзе, – калі робіць усенька, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы боскай, – і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды і прадзеды.»*** Сучасная тэрміналогіяй гэтыя фундаментальныя рэчы назваліся б правамі чалавека: правам на маёмасць, правам на палітычны ўдзел, свабоду перамяшчэння, свабоду сумлення і веравызнання. Усе гэтыя вызначэнні з аналагічным сэнсам занатаваны ва Ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай ААН у 1948 годзе.

Тады ж ужо Каліноўскім падзяляліся паняцці заканадаўчай бюракратыі і практыкі прымянення: ***«мы цяпер не такія дурныя, як был ўперад, і пазналі, што нам не маніхвэстаў царскіх, а вольнасці патрэба... Цар з Сенатам паталкаваўшы, як мінула трывога, так і аб'явіў у мейсцу вольнасці маніхвэст, а ў маніхвэсце прыказывае мужыкам служыць да часу паншчыну па-старому, а па новаму заплаціць больш грошай у казну на пісараў, пасрэднікаў, да і чорт ведае на што.»***

Чацвёрты нумар больш падрабязна апісвае сістэму кіравання, якая Кастусю Каліноўскаму бачыцца належнай і справядлівай: ***«Для таго, каб была справядлівасць і праўда на свеце, а злыя людзі не збыткавалі і крыўды другім не рабілі, е ронд, што бярэ падаткі, робіць школы, навучае кажнага, каб жыў па праўдзе, становіць суд; а калі гэта не памагае, і робіцца несправядлівасць, то наймае войска і так сцеражэ кажнага ад ліха і здзерства. От на што ронд патрэбны. І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народаві лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу.»*** Апошнія словы сталі асноўным лозунгам Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі - які праз далёкія 55 гадоў пасля публікацыі газеты яшчэ на адзін крок наблізіў да ажыццяўлення мару Каліноўскага пра вольную Беларусь.




Ад ідэальнай дзяржаўнай мадэлі аўтар пераходзіць да крытыкі існуючай: ***«Суды маскоўскія – гэта воўчая яма, гдзе не разбіраюць, чы за табой праўда, чы не, а скубуць адно як могуць. Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма, хто дужшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кажнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народаві і застанаць, калі пазнае сваю няволю, калі згледзіцца, што дзяруць з яго над сілы. Ронд маскоўскі, як той ліхі пан, што, пачаўшы ад Камісара аж да Цівуна, паваляе кажнаму народ глуміць, каб но як найбольш грошай у кішэнь яго дасталася. Ронд маскоўскі, Дзецюкі, не так робіць, як рабіці трэба, не думае, каб палегчыць народаві, а вымышляе адно спосабы, як абадраці і заўсім людзей зглуміці.»***

Адказнасць за тое, што адбываецца ў краіне Каліноўскі цалкам ускладае на цара. На ягоную думку дзеянні і паводзіны ўраднікаў цалкам адпавядаюць палітыцы манарха: ***«Для таго, як галава ў чалавека калі задумае кепскае, то ногі і рукі кепскае зробяць, так і ў рондзе, калі Цар глуму захочэ, то чыноўнікі глуму наробяць. А з гэтага то і відаць, што здзерства, якое ў нас вычаўпляюць, то не для таго робіцца, што ў нашам краю няма людзей здатных на чыноўнікаў, гатовых і жыццё свае аддаці для народу, а для таго, што Цар гэтакіх людзей у сыбір высылае, а за нашыя грошы назначае чыноўнікаў гэтых, што адно самі людзей глумяць, другім глуміці пазваляюць і Бога не баяцца.»***

Пяты нумар Мужыцкай праўды быў цалкам прысвечаны чарговаму планаванаму рэкруцкаму набору. Кастусь Каліноўскі яшчэ раз тлумачыў, што па старым законам за абарону Айчыны «мужыкам» давалі шляхецкі тытул і зямлю, чаго не робіцца ў царскай арміі. Аўтар акцэнтаваў увагу на тым, што служба праходзіць у далёкіх краях і ў цяжкіх умовах. Даводзіў, што чалавек не павінен служыць чужым інтарэсам, «грашыць у імя цара», а мусіць быць побач са сваякамі і абараняць толькі сваю зямлю пры патрэбе. Разумеючы, што рэкруцкае войска абавязкова будзе выкарыстана дзеля падаўлення будучага паўстання Каліноўскі заклікаў да байкоту рэкруцкага набору: ***«... для таго, калі Цар захоча ўзяці, так, цэлымі грамадамі згаварыўшыся, нігдзе яму не давайце. Ён цяпер хоча ўзяць 5 з тысяча, но як мы яму дамо 5, то ён пазней захоча ўзяці 10, і зноў пойдзе па-старому. Цяпер мы яму аддамо гыцлёў, но пазней трэба будзе аддаці і сваіх сыноў. Так для таго, Дзецюкі, талкуйце добра і не давайцеся ашуківаць. За мужыцкую крыўду стойце смела, усе разам, і, калі хто схоча скрыўдзіць вас, выцягаці рэкрута, то хто б ён ні быў, чы то Старшына, чы Акружны, чы хоць сам Губернатар, то вы яго таўчэце мужыцкай рукою, а будзе вольнасць і рэкрута не будзе, і Бог нам дапаможа!»***

Шосты нумар газеты быў цалкам прысвечаны рэлігійнаму пытанню. На момант падзелу Рэчы Паспалітай каля 80% насельнікаў Беларускага краю былі грэка-каталікамі (уніятамі). Рашэнне пра аб'яднанні каталіцтва і праваслаўя было прынятае яшчэ ў 1696 годзе на Берасцейскім царкоўным саборы. Гэтая канфесія была ўнікальнай па сваёй сутнасці. Уніяцтва мела ўласныя непаўторныя традыцыі і абрады набажэнстваў, літаратуру, малітвы, іканаграфію, архітэктурны стыль і нават каноны. У вялікім княстве мелася ўласная царкоўная іерархія, вышэйшым чынам якой лічыўся Віленскі ці Навагрудскі мітрапаліт. Гэтая царква цалкам захавала ўсе атрыбуты Вялікалітоўскай праваслаўнай царквы сярэднявечча, хоць і увайшла ў 17 ст. у сферу падпарадкавання Папы Рымскага. У 19 стагоддзі ўсё арыгінальнае і непаўторнае ва ўніяцкай царкве масава знішчалася: руйнаваліся і перабудоўваліся храмы, паліліся кнігі і іконы, разганяліся манастыры, забараняліся малітвы на сваёй мове. Так расейскі ўрад заахвочваў беларусаў да «возвращения в лоно русской православной веры». Нават паслядоўныя прыхільнікі праваслаўя ВКЛ былі шакаваны такім варварствам «братоў па веры».

Не мог абыйсці гэтую тэму і Кастусь Каліноўскі. Крыўда на рэлігійны гвалт выпырснуся ў шэрагу досыць эмацыйных выказванняў у шостым нумары Мужыцкай праўды: ***«Калі Сын Боскі, прыйшоўшы на гэты свет, устанавіў праўдзівую веру, і за гэту веру цярпеў крыжовыя мэнкі (пакуты), то не для таго, каб якіясь там Цары маскоўскія, байстручага роду перамянялі закон Божы, а мы, на прыказ гэтых Цароў, выракаліся веры сваіх Дзядоў і Прадзедаў і не хвалілі Бога, а радню Царскую, – но для таго, Дзецюкі, Бог Найвышшы цярпеў за нас, каб закон яго быў ужэ вечны, ніхто не смеў перамяняці, а мы з цэлай моцы трымаліся яго.»*** Тут знаходзіць і адлюстраванне і вельмі характэрны для беларусаў культ Продкаў, якія для простага чалавека былі аўтарытэтамі большымі за любых цароў.

**Польскія рэвалюцыйныя колы, абвесціўшы сябе Польскім нацыянальным урадам у 1863 годзе, разлічвалі адрадзіць Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву. У рэвалюцыйнае кіраўніцтва ўваходзілі ў асноўным прадстаўнікі буйных феадальных сем'яў. У паўстанні яны разлічвалі больш на палітычны ціск і дыпламатычную дапамогу іншых краінаў. Сялянскае пытанне ж наогул не разглядалася Варшаўскім камітэтам.**

**Аднак на Беларусі мэты і шляхі інсургентаў былі іншымі. Кастусь Каліноўскі, які ўзначальваў Літоўскі правінцыйны камітэт, быў заўзятым прыхільнікам фракцыі чырвоных (рэвалюцыянер-дэмакратаў). Яны, у адрозненні ад белых (манархістаў-кансерватараў), адстойвалі персанальныя грамадзянскія свабоды і выступалі за нацыянальнае самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай.**

**Прынцыпы Каліноўскага не падабаліся варшаўскаму кіраўніцтву паўстання, і 27 лютага 1863-га яны дамагліся парадачы кіравання паўстаннем віленскаму камітэту «белых». Аднак пасля капітуляцыі большасці буйных феадалаў у выніку царскіх рэпрэсій, праз 4 месяцы Каліноўскі быў вернуты ў склад Віленскага камітэта, а 31 ліпеня 1863 ізноў узначаліў яго.**

**У Кастуся Каліноўскага не было жадання здавацца і адступаць. На сваёй зямлі і за сваю зямлю ён змагаўся да апошняга. Ён не пакінуў адданых яму людзей нават калі сілы касінераў пачалі таяць і паўстанне мусіла перайсці да партызанскай барацьбы. Ад мары пра вольную Беларусь ён не адступіўся і перад смерцю - ў ноч перад павешаннем Кастусь Каліноўскі пісаў ліст да свайго народу, дзе заклікаў не спыняць змаганне за волю Радзімы.**

Сёмы нумар Мужыцкай праўды выходзіў ужо пад час самога паўстання. У газеце больш акцэнтаваным быў заклік да збройнага паўстання за волю краіны. Падсумоўваліся ўсе пункты палітычнай праграмы паўстанцаў: ***«Зямля Вольна даецца ўсім мужыкам, бо гэта іхня зямля з дзядоў-прадзедаў, за гэту зямлю ніхто не мае адрабляць паншчызны і чыншаў ніякіх нікому плаціць; падушнага (падатак з чалавека) больш не будзе, а толькі падымнэ (падатак з гаспадаркі), як колісь плацілі; рэкрута не будзе, а ўсі мужыкі, і паны, і мяшчане, усяк адслужыць 3 гады ў свaей зямлі, і зноў сабе вольны. Уніяцкія касцёлы, што маскалі забралі, аддаюцца назад уніятам, і хто хоча, мае права хрысціць дзяцей па-уніяцкі да да уніяцкіх ксяндзоў ўсці да споведзі, і па-старому БОГУ маліцца, як яшчэ бацькі нашы малілісь.»***

Апошнім радком быў заклік паўстаць супраць імперскага прыгнёту. Каліноўскі звяртаўся да кожнага беларуса - бо менавіта ад кожнага залежаў лёс паўстання і будучай гісторыі. Усе па-свойму маглі розным чынам спрычыніцца да агульнай перамогі, у якую шчыра верыў ***Яська, гаспадар з-пад Вільні: «Падумайце добра, да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужэ не падмане, не падвядуць маскалі! Няма для ніх у нашых селах ні вады, ні хлеба, для ніх мы глухі і немы – нічога не бачылі і не чулі. А покуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды – а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагці будзем, да ўведамляць, адкуль на ніх цягне нячыста маскоўска сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. – А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам.»***




Наклад: 299 асобнікаў. Надрукавана на ксераксе.
Выдадзена 30.03.2013 г. Берасце.
Кантакты рэдакцыі:
Віктар Клімус МТС: (029) 227 52 12
Life: (025) 513 19 20
Павел Дайлід: (029) 522 82 30

Больш інфармацыі шукайце тут:
vk.com/grunt_brest
reha.of.by